*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 30(467) 2 ЖНІЎНЯ 2000 г.

## Усебеларускі з'езд рашуча выказаўся за незалежнасць Беларусі



Усебеларускі з'езд, арганізаваны беларускай творчай інтэлігенцыяй, адбыўся ў Доме культуры тонкасуконнага камбіната ў Менску. Ён сабраў больш за тысячу дэлегатаў з усёй краіны. Мэта з'езду – прыняцце Акта незалежнасці. Афіцыйныя ўлады Беларусі загадзя прызналі несапраўднымі ўсе прынятыя на з'ездзе дакументы.

**На здымку**: прэзідыум з'езду.

**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

## ТБМ працуе з пасламі

У красавіку гэтага года ТБМ даслала зварот да паслоў Чэхіі, Польшчы, Літвы, Украіны, Ізраіля, ЗША, Вялікабрытаніі, Балгарыі, Францыі, Італіі, Індыі, Расеі, Кітая і Германіі ў якім была звернута іх увага на ігнараванне беларускай мовы пры аздабленні тавараў, што імпартуюцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, вытворцамі гэтых краінаў. Для доказу беспадстаўнасці такой практыкі былі прыведзены вынікі перапісу насельніцтва 1999 года, паводле якіх нагадаем 81,6% грамадзянаў нашай Бацькаўшчыны беларусы; 85,6% з іх вызначаюць беларускую мову як родную, а 37% жыхароў Беларусі штодня размаўляюць па-беларуску.

Таварыства прасіла паслоў давесці гэту інфармацыю да ведама таваравытворцаў сваіх дзяржаваў, якія займаюцца экспартам вырабаў у Рэспубліку Беларусь, а таксама звярнуць іх увагу на тое, што з пункту гледжання элементарнай павагі да беларускага народа на пакунках і этыкетках прадукцыі, якая мае распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі, абавязкова павінна ўжывацца дзяржаўная беларуская мова. Як найбольш станоўчы прыклад у такой павазе адзначалася харчовая прадукцыя іспанскіх вытворцаў.

У выніку на імя старшыні ТБМ сп. Алега Трусава было атрымана афіцыйнае пасланне ад Нямецкага Саюза прамыслова-гандлёвых палат, дзе паведамлялася, што да іх праз Амбасаду ФРГ у Рэспубліцы Беларусь быў пераадрасаваны ліст на імя Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Федэратыўнай Рэспублікі Германія спадара Хорста Вінкельмана. Таксама выказвалася падтрымка занепакоенасці існай практыкай ігнаравання мовы, якая з'яўляецца дзяржаўнай пры маркіроўцы экспартаванай з ФРГ нямецкай прадукцыі.

З свайго боку Прадстаўніцтва абяцалася інфармаваць нямецкія прадпрыемствы, звязаныя з рынкам нашай краіны аб тым, што побач з расейскай беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай, і нямецкія таваравытворцы мусяць улічваць дадзеныя абставіны пры пастаўцы сваёй прадукцыі ў Рэспубліку Беларусь.

ТБМ лічыць, што іспанскія вытворцы, дзеянні нямецкага пасла Хорста Вінкельмана і Прадстаўніцтва Нямецкай Эканомікі, а таксама дзейнасць таваравытворцаў іншых дзяржаваў, якія прытрымліваюцца правілаў добрага тону пры аздабленні экспартаваных тавараў не могуць не выклікаць шчырую павагу і ўдзячнасць усіх шчырых беларусаў.

У цывілізаваных народаў заўсёды будзе існаваць паважлівае стаўленне да моваў суседзяў.

*Алесь Гурыновіч.*

**Представительство Немецкой Экономики**  **Repräsentanz der Deutschen Wirtschaft**

**Представительство Немецкого Союза промышленно-торговых палат** **Repräsentanz des Deutschen Industrie- und Handelstages**

**Старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" спадару Трусаву А. А.**

Паважаны Алег Анатольевіч!

...Ад Нямецкага саюза прамыслова-гандлёвых палат у Берліне праз Пасольства ФРГ у Рэспубліцы Беларусь нам быў пераадрасаваны Ваш ліст ад 7 красавіка 2000 г., зых № 325 на імя Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Федэратыўнай Рэспублікі ў Беларусі пана Хорста Вінкельмана, у якім Вы выказваеце занепакоенасць з нагоды ігнаравання беларускай мовы пры маркіроўцы экспартаванай з ФРГ у нашу рэспубліку нямецкай прадукцыі.

Мы падзяляем Вашую занепакоенасць існай практыкай.

Са свайго боку Прадстаўніцтва будзе інфармаваць нямецкія прадпрыемствы, якія звяртаюцца да нас і зацікаўлены ў паспяховым прасоўванні сваіх тавараў на рынак Рэспублікі Беларусь, або што ўжо працуюць на нашым рынку пра тое, што побач з рускай беларуская мова згодна з "Законам аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" з'яўляецца дзяржаўнай, і нямецкія вытворцы павінны ўлічваць гэтыя абставіны пры планаванні і арганізацыі паставак сваёй прадукцыі ў Рэспубліку Беларусь.

***З павагай В. Аўгусцінскі, глава Прадстаўніцтва Нямецкай Эканомікі.***

## Пікеты прайшлі ўдала

27 ліпеня, якраз у дзень незалежнасці Беларусі ТБМ правяло пікетаванне ў абарону беларускай мовы і збор подпісаў за стварэнне беларускага ўніверсітэту.

Пікет адбываўся з 17.00 да 19.00 у заводскім раёне Менска, адразу ў двух месцах, адзін ля плошчы Ванеева, а другі на адлегласці аднаго прыпынку ля стадыёна "Трактар" побач з рэчавым кірмашом.

У мерапрыемстве прынялі ўдзел старшыня ТБМ сп. Алег Трусаў, яго намеснікі сп. Мікола Лавіцкі і Людміла Дзіцэвіч, сябры Рады, старшыня гарадской Рады Валянціна Аксак, Ул.Содаль, Алена Анісім, Сяргей Запрудскі, а таксама іншыя сябры Таварыства, усяго каля 50-ці чалавек. Пікетоўшчыкі трымалі ў руках плакаты і транспаранты, адказвалі на пытанні падыходзячых людзей. Былі і такія, як адна дзябёлая цётка з прыпынку, якая раўла – "што вы высоўваеце сваю калхозную мову". Але ў сваёй падаўляючай большасці людзі добра ставіліся да пікета, было сабрана каля сарака подпісаў за беларускі ўніверсітэт.

У праязджаючым грамадскім транспарце пасажыры чыталі і абмяркоўвалі напісанае на транспарантах – "Не моўнаму генацыду", "Абаронім родную мову", "Не русіфікацыі" і інш.

Добра было б кожнай суполцы, ці іншым аддзелам ТБМ па месцы жыхарства правесці пікетаванні. Калі на працягу гэтага лета-восені пройдуць такія мерапрыемствы па ўсёй Беларусі, то гэта будзе добры ўнёсак у адраджэнне нашай мовы.

*Алесь Гурыновіч.*

## *Зарэгістравалі...*

Нарэшце адысея перарэгістрацыі Фрунзенскай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны горада Менска, якая расцягнулася блізу на дзевяць месяцаў, паспяхова завяршылася выдачай 18 ліпеня бягучага года адпаведнага пасведчання. Не будзем нікога вініць за такі працяглы тэрмін рэалізацыі па сутнасці нескладанай працэдуры. Выкажам толькі ў сувязі з гэтым фактам задавальненне.

Раённая арганізацыя ТБМ уключае зараз шэсць першасных суполак з агульнай колькасцю каля 300 актыўных прыхільнікаў беларускага слова, што, вядома, зусім няшмат. Зазначым, што абсалютную большасць з іх складаюць настаўнікі і навучэнцы – людзі, прафесійна звязаныя з функцыяваннем беларускай мовы ў грамадстве. Бясспрэчна, такое вузкае сацыяльнае асяроддзе не зможа поўнасцю зрэалізаваць задачу пашырэння выкарыстання беларускай мовы ў агульнанародным маштабе. Мы бачым сваёй актуальнай задачай згуртаванне як мага большай колькасці носьбітаў і прыхільнікаў роднай мовы з усіх саслоўяў у суполках ТБМ. Толькі праз іх аб'яднанне ў арганізацыйных структурах ТБМ – рэальны шлях паспяховай, выніковай працы, накіраванай на пашырэнне нашай мовы ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці грамадства. Таму сваю працу будзем і надалей весці менавіта ў гэтым кірунку.

*Віктар Бекіш, старшыня Рады Фрунзенскай раённай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны г. Менска.*

**Алег Трусаў,**
**старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

# Захаванне незалежнасці Беларусі непарыўна звязанае з развіццём і пашырэннем беларускай мовы.

**(выступ на Усебеларускім з'ездзе "За незалежнасць")**

Роскміт нашай Бацькаўшчыны заўжды непарыўна быў звязаны з роскмітам ды пашырэннем ва ўжытку беларускай мовы, якая з даўніх часоў выконвала функцыю не толькі дзяржаўнай, але і мовы міжнацыянальных стасункаў, асабліва за часамі ВКЛ.

У ВКЛ старабеларуская мова была не толькі дзяржаўнай з сутнасці, але і мовай войска, судоў, справаводства, арыстакратычнага асяродку і, разам з латынню, мовай міждзяржаўных стасункаў, якую ў дыпламатычным ліставанні выкарыстоўвалі і суседнія краіны.

З XII па XУ ст.ст. гэта была дзяржаўная мова і яшчэ адной беларускай краіны – Вялікага княства Смаленскага, якое ўвайшло ў склад ВКЛ у XУ ст. і адразу стала адным са значных цэнтраў беларускага летапісання. Найвыбітнейшым шэдэўрам смаленскіх літапісцаў XУ ст. стаў знакаміты Радзівілаўскі летапіс, аздоблены больш чым 600-амі цудоўнымі малюнкамі.

У 1588 г. дзякуючы намаганням Ільва Сапегі беларуская мова афіцыйна была абвешчана дзяржаўнай, што было замацавана Статутам ВКЛ, адной з першых у Еўропе Канстытуцыяй, надзвычай дэмакратычнай для сярэднявечча.

Але ж хвалі паланізацыі і русіфікацыі, што на доўгі час пазбавілі беларусаў незалежнасці, разам з тым вельмі нашкодзілі і беларускай мове, бо адзіным месцам яе існавання цягам некалькіх апошніх стагоддзяў была толькі наша, беларуская вёска. Галоўная мэта любога акупанта - знішчэнне (фізічнае ці маральнае) альбо поўная асіміляцыя мясцовай інтэлігенцыі, носьбітаў і захавальнікаў літаратурнай мовы свайго народа. І ў першую чаргу знішчаецца нацыянальная сістэма адукацыі, асабліва вышэйшая.

Захапіўшы Беларусь напрыканцы XУIII – пачатку XIX стагоддзяў улады Расейскай імперыі спярша спрыялі поўнай паланізацыі народнай асветы на Беларусі, а калі гэта адбылося, скасавалі ўсе навучальныя ўстановы забранага краю. І першымі ў той чарзе былі Полацкая акадэмія ды Віленскі ўніверсітэт. А пасля задушэння паўстання Каліноўскага на Беларусь абрынулася хваля татальнай русіфікацыі. Аднак, нягледзячы на палітычныя рэпрэсіі і моцны рэлігійны ўціск, паводле перапісу 1897 году са 153 тысячаў мясцовай шляхты 43,3% (а гэта больш за 66 тысячаў!) назвалі ўсё ж сваёй роднай мовай беларускую.

Тыя "рускамоўныя дэмакраты", што прысутнічаюць сёння ў гэтай зале, мусяць памятаць крылатае выслоўе рускіх акупантаў "Таго, што не зрабіў рускі штых, пасьпяхова зробіць руская школа і рускі настаўнік". І калі вы, неўзіраючы на паходжанне ды палітычныя погляды, лічыце сябе патрыётамі Беларусі, вы проста абавязаны ў гэты нялёгкі для нашае Бацькаўшчыны час бараніць беларускую мову, паўсюдна ёю карыстацца, асабліва ў СМІ, і адстойваць менавіта беларускамоўную адукацыю, як для сваіх дзетак, гэтак і для ўсіх грамадзянаў нашай краіны.

Між іншым, у 16 стагоддзі ў Беларусі існавалі школы еўрапейскага ўзроўню адукацыі. У 1579 годзе ў Вільні быў адкрыты ўніверсітэт, які зваўся Акадэміяй і дзе атрымоўвалі вышэйшую адукацыю юнакі з Беларусі. Спачатку ўніверсітэт меў 3 факультэты. Студэнты ўсіх факультэтаў вывучалі беларускую мову. Ва ўніверсітэт прымаліся выхаванцы сярэдніх школаў Беларусі, дастаткова падрыхтаваныя да ўспрыняцця дысцыплінаў, што вывучаліся ўва ўсёй Еўропе. У 16 – 18 стагоддзях таксама існавала і шырокая сетка сярэдніх школ, сярод якіх асабліва вылучаліся іезуіцкія калегіі і піярскія вучэльні. У канцы 18 стагоддзя ўва ўніверсітэце былі адчыненыя фізічны і медычны факультэты. Свой унёсак у развіццё вышэйшай адукацыі Беларусі зрабіла Полацкая іезуіцкая акадэмія, адчыненая ў 1812 годзе, а таксама Горы-Горацкі земляробчы інстытут. Аднак царскі рэжым зачыніў усе гэтыя вышэйшыя навучальныя ўстановы з-за рэвалюцыйных поглядаў студэнтаў і часткі прафесуры.

Тым не менш традыцыі нацыянальнай вышэйшае адукацыі захаваліся. У 1918 годзе ў Менску быў адкрыты Педагагічны інстытут, а ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў рашэнне аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. І нарэшце ў 1921 годзе ў БССР пачаў сваю дзейнасць Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, дзе распачалася падрыхтоўка нацыянальных навуковых ды педагагічных кадраў. Для жыхароў Заходняй Беларусі значную ролю адыграў таксама Пражскі ўніверсітэт, дзе мела магчымасць навучацца таленавітая беларуская моладзь.

Канец 20-х – пачатак 30-х гадоў нашага стагоддзя былі адметныя тым, што пасьпяхова пачаўся пераход да выкладання ўсіх дысцыплінаў (якія вывучаліся ў ВНУ) на беларускую мову. Разам з гэтым выявілася надзвычайнавя актыўнасць педагогаў і навукоўцаў у выданні беларускамоўных падручнікаў. Аднак сталінскія рэпрэсіі канца 30-х гадоў цалкам разбурылі беларускую адметнасць вышэйшай школы. Пераважная бальшыня нацыянальна свядамых выкладчыкаў была рэпрэсавана. Працэс вынішчэння нацыянальнай вышэйшай школы давершыла другая сусветная вайна. Дастаткова прыгадаць, што ў 50-70 г.г. XX стагоддзя працэнт беларусаў сярод выкладчыкаў нашых ВНУ, асабліва сярод дацэнтаў ды прафесуры, быў менш за 50%. Таму беларуская мова фактычна была забароненая для ўжытку ў ВНУ, а ейныя носьбіты пераследаваліся. Варта згадаць спробу беларускіх студэнтаў філфака БДУ дамагчыся выкладання па-беларуску некаторых дысцыплінаў і што з гэтым атрымалася. Больш чым на 50 гадоў быў гвалтоўна спынены амаль увесь працэс выкладання ў ВНУ па-беларуску, не выдаваліся і беларускія падручнікі.

Працэс вяртання менавіта да нацыянальнай сістэмы вышэйшай адукацыі ўзнвіўся толькі на пачатку 90-х гадоў (пасля абвяшчэння беларускай мовы дзяржаўнай). Нягледзячы на адсутнасць дзяржаўнай праграмы, ён пашырыўся і меў свае поспехі. Але ўсё зноў было скасавана , гэтым разам пасля рэферэндуму 1995 году і змянення дзяржаўнай палітыкі ў Рэспубліцы Беларусь, якая сёння накіраваная на вынішчэнне ўсяго беларускага.

Аднак, насуперак актыўным намаганням сённяшняе ўлады ў русіфікацыі краіны, вынікі перапісу жыхарства 1999 году яскрава засведчылі, што беларусы нават у такіх надзвычай складаных умовах здолелі захаваць сваю нацыянальную адметнасць: каля 81 % грамадзянаў назвалі сябе беларусамі з паходжання, а прыкладна 37% (амаль 4 млн. нашых суачыннікаў!) у якасці мовы штодзённых стасункаў назвалі беларускую. Тут варта зазначыць, што каля трэці школьнікаў навучаецца зараз менавіта ў беларускамоўных сярэдніх школах і класах. Але ж сёння яны не маюць магчымасці працягваць сваё цалкам беларускамоўнае навучанне ў ВНУ.

У артыкуле 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пазначана: "Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".

На жаль, гэты артыкул нашага Галоўнага закону сёння не дзейнічае, бо бацькі , якія жадаюць навучаць сваіх дзетак па-беларуску, паўсюдна сутыкаюцца з перашкодамі, ужо мінула 10 гадоў ад дня прыняцця дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, а Беларусь дасюль не мае ніводнай вышэйшай навучальнаў установы, дзе б усе студэнты навучаліся на роднай, а разам з тым і дзяржаўнай беларускай мове і дзе б вытрымліваўся адпаведны моўны рэжым. Тыя нешматлікія фармальныя беларускамоўныя плыні, што засталіся на некаторых гуманітарных факультэтах некалькіх ВНУ у разлік браць нельга, бо поўнае выкладанне па-беларуску ўсіх дысцыплінаў (асабліва замежных моў) там адсутнічае.

У сувязі з гэтым ТБМ імя Ф.Скарыны цягам апошніх трох гадоў патрабуе ад кіраўніцтва краіны адкрыцця ў Менску новага Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту (далей БНУ), у якім усе без выключэння дысцыпліны выкладаліся б па-беларуску, а таксама на дзяржаўнай беларускай мове дзейнічала б уся сістэма справаводства (уключна з бухгалтэрыяй) з філіямі ў тых вялікіх беларускіх гарадох, дзе жыве болей за 100 тыс. жыхароў і дзе адсутнічаюць іншыя ВНУ. У першую чаргу гэта Ліда (дзе за БНУ было сабрана больш за 8 тысяч подпісаў), а таксама Бабруйск, Ворша, Пінск.

На сёння ТБМ мае больш за 30 тысяч подпісаў грамадзян Беларусі ды іншых краін з патрабаваннем адкрыць на Беларусі вышэйзгаданую навучальную ўстанову, дзе ўсе дысцыпліны (у тым ліку і замежныя мовы) выкладаліся б па-беларуску. Наша дзяржава мае дастатковую колькасць дактароў і кандыдатаў навук, прафесараў і дацэнтаў, каб цалкам укамплектаваць усе факультэты БНУ высокапрафесійнымі, беларускамоўнымі кадрамі.

Але ж, на жаль, звароты ТБМ да кіраўніцтва беларускай дзяржавы застаюцца пакуль без адказу. Таму напрыканцы мінулага году Таварыствам была зарганізаваная ініцыятыўная група па стварэнні БНУ. У адпаведнасці з рашэннем лістападаўскай Рады ТБМ і з асабістых пажаданняў у склад ініцыятыўнае групы зараз уваходзяць каля 70 асобаў. Сярод іх акадэмікі, член-карэспандэнты, 15 дактароў навук, шмат прафесараў, дацэнтаў, вядомыя пісьменнікі, журналісты, дыпламаты. Кіруе групай акадэмік Радзім Гарэцкі.

Праект Канцэпцыі стварэння БНУ быў апублікаваны ў дзяржаўным ды незалежным друку. Ідэю адкрыцця БНУ ўжо падтрымалі Саюзы палякаў і літоўцаў Беларусі, розныя грамадскія ды палітычныя арганізацыі, сярод якіх Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і Таварыства беларускай школы.

ТБМ неаднаразова прапаноўвала ўладам публічна абмеркаваць гэтае пытанне ў часе так званага Дыялогу. але афіцыйныя асобы пакуль устрымліваюцца ад гэтага кроку, хоць менавіта гэтая ідэя магла б па-сапраўднаму згуртаваць беларускае грамадства.

Таму я з гэтай высокай трыбуны ад імя ўсіх сяброў Таварыства беларускай мовы прапаную дэлегатам Усебеларускага з'езду шляхам адкрытага галасавання падтрымаць ідэю адкрыцця ў нашай краіне ў 2001 годзе Беларускага Нацыянальнага ўніверсітэту з філіяламі ў буйных гарадох і ўнесці адпаведны запіс у рэзалюцыю з'езду.

**Жыве вольная Беларусь!**
29 ліпеня 2000 г.
Менск.

*P.S. З-за недахопу часу даклад быў прачытаны ў скарочаным варыянце.*



**На здымку пісьменнік Яўген Будзінас і пасол Францыі ў Беларусі Бернар Фассе (у цэнтры - сустаршыня аргкамітэту Усебеларускага з'езду, былы старшыня ТБМ, паэт Генадзь Бураўкін). Фота IREX/ProMedia.**





## Гужавыя транспартныя сродкі на Беларусі

На працягу многіх стагоддзяў гужавы транспарт быў асноўным у народнай гаспадарцы. Ён дасягнуў свайго росквіту ў XIX ст. У працэсе шматвяковай гаспадарчай дзейнасці ў асяроддзі беларускіх майстроў склаліся багатыя вытворчыя традыцыі.

Гужавыя транспартныя сродкі выконвалі не толькі практычныя функцыі, але і служылі сацыяльным і фамільна-родавым знакам. Гужавыя транспартныя сродкі падзяляюцца на палазныя і колавыя. Яны ў сваю чаргу маюць мноства варыянтаў у залежнасці ад канкрэтнага прызначэння мясцовых вытворчых традыцый і сацыяльнай прыналежнасці. Як палазныя, так і колавыя сродкі падзяляюцца на рабочыя і выязныя, з кузавам і без кузава.

Сані з'яўляюцца больш старажытнымі сярод палазных транспартных сродкаў. У сярэднявечны перыяд язда на санках лічылася больш шаноўнай, чым язда на калёсах. Важныя службовыя асобы, асабліва духавенства, выязжалі на санях і летам. Сані адыгрывалі важную ролю ў вясельнай абраднасці, пахаванні. Прататыпам саней паслужыла валакуша. Валакуша ўяўляла сабою дзве паўсагнутыя жэрдкі, злучаныя між сабой папярочкамі. Сані могуць быць рабочыя і выязныя. Выязныя сані мелі магнаты, шляхта, духавенства. Утульны, дэкаратыўна аздоблены кузаў, нярэдка ўцяпляўся ўнутры аксамітам ці футрам. Часам такія вазкі мелі закрыты верх.

У сялянскім асяродку вазкі распаўсюдзіліся ў др. п. XIX ст. Яны ўяўлялі сабой больш лёгкую павозку з кузавам для ездакоў. Кузаў часта абшываўся лубам, меў распісны ўзор. Каб адвезці са двара дровы, прывезці вады, выкарыстоўвалі маленькія санкі. У цёплы сезон сані саступалі месца колавым транспартным сродкам. Традыцыйны сялянскі вазок быў чатырохколавы. Пярэдняя і задняя часткі (хады) злучаліся паміж сабой пасярэдзіне трайнёй, а паверх – жэрдкамі-лажэйкамі, што ўтваралі пакрыццё воза. Да пачатку XX ст. рабочыя вазы рабіліся цалкам з дрэва. Нават абады колаў не мелі жалезных шын. У Заходняй і Цэнтральнай Беларусі была распаўсюджана мажора, або драбіна. Пры перавозцы сыпучых рэчаў бартавыя лесвіцы здымаліся, на іх месца ставіліся шчыты з дошак. Рухомае становішча пярэдняга і задняга ходу давала магчымасць разводзіць іх і выкарыстоўваць пры перавозцы лесу.

Выязны колавы транспарт – гэта брычкі, карэты, кочы, фаэтоны і г.д.

*Ірына Гарадзей.*
*Студэнтка III курса БУК.*

## М.Скобла "Дзярэчынскі дыярыюш"

*"Расчынены сонцу, узнёслы,*
*відзён з навакольных дарог,*
*нібыта, сабраўшыся ў космас,*
*з зямлёй развітацца не змог".*
*М.Скобла*
*"Стары касцёл у Дзярэчыне".*

У 1999 годзе ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" выйшла цікавая кніга паэта Міхася Скоблы "Дзярэчынскі дыярыюш", гісторыя аднаго мястэчка – радзімы аўтара. На прыкладзе аднаго невялікага паселішча паказана, якія багатыя былі беларускія мястэчкі ў XVII ст., працавалі тэатры, былі палацы, багатыя зборы шэдэўраў мастацтва ў прыватных калекцыях, дзейнічалі касцёлы, цэрквы, сінагогі. Маладыя людзі мелі магчымасць атрымаць добрую адукацыю ў гімназіях, вывучаць замежныя мовы, вандраваць, жылі заможна. Да гэтага часу працягваецца разбуральная дзейнасць, можна ўбачыць рэшткі палацаў, паркаў (Дабраўляны, Варняны, Вішнева, Свіра і іншыя), калі касцёлы яшчэ зберагліся хоць у любым стане, то цэрквы і сінагогі амаль усюды знішчаны. А разрабаваныя карціны знаходзяцца ў прыватных асоб.

Чытаеш кнігу і такая настальгія па мінулым, а як "пастарэлі" мястэчкі, ды і людзей нельга параўноўваць.

У Дзярэчыне жылі Сапегі, Пятроўскія, і іншыя знакамітыя людзі, нашчадкі якіх жывуць і сёння далёка ад Беларусі, на розных кантынентах. Якой багатай была б Беларусь, каб не войны і асабліва, бальшавіцкая, разбуральная навала. У кнізе яшчэ і ЭСЭ аўтара пра Ларысу Геніюш, побач з ёй жыў М.Скобла, пра Пімена Панчанку, Наталлю Арсеньеву. Хоць пра іх шмат напісана, але кожная новая вестка цікавая. Кніга Міхася Скоблы цікавая для шырокага кола чытачоў, пазнавальная, цудоўна афармленая, адкрыта яшчэ адна гістарычная старонка дарагой Гарадзеншчыны.

*Леакадзія Мілаш, г. Вільня.*

## Слядамі рыцараў

У бібліятэцы імя Талстога ў Менску адкрылася выстава дзіцячага малюнка "Слядамі рыцараў". Тут прадстаўлены работы выхаванцаў ізастудый беларускай сталіцы.

**На здымках:**

1. Вялікая княгіня Вялікага княства Літоўскага і каралева Польская Барбара Радзівіл, малюнак Каці Вяеўнік. Ёй 11 гадоў, займаецца ў студыі "Крынічка".

2. "Грунвальдская бітва", малюнак Ніны Галаенка, 13 гадоў.

**Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.**

## Легенда з пяску

Скульптурны пленэр "Легенда з пяску", прысвечаны 1000-годдзю з дня смерці Рагнеды, прайшоў пад эгідай гісторыка-культурнага музея-запаведніка ў Заслаўі. На працягу трох дзён навучэнцы Беларускага каледжа мастацтваў пад кіраўніцтвам свайго настаўніка каардынатара праекту "Легенда з пяску" Генадзя Лойкі стварылі вобраз легендарнай Рагнеды.

**На здымках:**

1. Каардынатар праекту "Легенда з пяску" Генадзь Лойка з эскізам на фоне створанай з пяску Рагнеды.

2. У час стварэння Рагнеды.

**Фота Аляксея Мацюшкова, БелТА.**





**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 4. 08. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2047
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 147 руб., 3 мес.- 441 руб.
**Кошт у розніцу:** 40 руб.